**№№18–19**
**(2329–2330)**
3–4 лютага 2006 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная воля».

# Народная Воля




**Да ўвагі!**

***Хто не зрабіў перадаплату і хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!***

*Шаноўныя чытачы!*
*У надзвычай цяжкіх умовах выдаецца кожны нумар "Народнай волі".*
*Па ўсіх пытаннях жыхары сталіцы могуць звяртацца па тэлефоне 206-63-93,*
*усе астатнія — па тэлефоне 206-68-71.*




*Актывісты апазіцыі вывешваюць расцяжку з надпісам "Дастаў!" на мосце па вул.Магілёўскай (Мінск, 1 лютага 2006 года).*

Фото photo.bymedia.net

**ПАЛІТКУХНЯ**

## Ці трапіць апазіцыя на Усебеларускі сход?

Нагадаем, што нядаўна **Аляксандр Казулін** прапанаваў, каб на Усебеларускі сход былі дэлегаваны не толькі "людзі Лукашэнкі", але і прадстаўнікі ўсіх палітычных і грамадскіх сіл, якія апаніруюць уладзе, а таксама прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта краіны. Казулін нават накіраваў афіцыйны зварот да кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта і кіраўніка аргкамітэта па падрыхтоўцы Усебеларускага схода прэм'ер-міністра **Сяргея Сідорскага**. Аднак адказу на яго пакуль няма.

Напрыканцы студзеня наконт абрання ўдзельнікаў Усебеларускага схода выказаўся старшыня Мінскага гарвыканкама **Міхаіл Паўлаў**, які заявіў, што *"ўдзельнікамі схода павінны быць абраны самыя годныя прадстаўнікі насельніцтва"*. Паводле слоў Паўлава, сярод іх не павінна быць *"выпадковых людзей"*. "Народная воля" паспрабавала высветліць, ці адносяцца да такіх, напрыклад, **Аляксандр Мілінкевіч, Анатоль Лябедзька, Сяргей Калякін, Аляксандр Вайтовіч** і іншыя апазіцыянеры.

Прэс-сакратар прэм'ер-міністра Беларусі **Аляксандр Цімашэнка** параіў уважліва прачытаць указ Лукашэнкі аб правядзенні Усебеларускага схода, у якім падрабязна распісана працэдура абрання дэлегатаў на гэтае мерапрыемства.

*"Калі нехта з апазіцыянераў хоча трапіць на сход, няхай прапануюць свае кандыдатуры працоўным калектывам і, магчыма, іх абяруць дэлегатамі"*, — сказаў Цімашэнка.

Адзін з удзельнікаў другога Усебеларускага схода, экс-старшыня Савета Рэспублікі акадэмік **Аляксандр Вайтовіч** лічыць, што ў цяперашніх умовах у прадстаўнікоў апазіцыі амаль няма шанцаў такім чынам трапіць на "народны сход", які адбудзецца на пачатку сакавіка.

*"Тым больш што ў мінулым былі спробы трапіць на падобнае мерапрыемства, але вядома, чым яны скончыліся,* — гаворыць Аляксандр Паўлавіч. — *Напрыклад, у межах інстытута мяне яшчэ маглі б абраць дэлегатам, але ў межах раёна — наўрад ці. Дэлегатамі стануць толькі надзейныя, правераныя людзі"*...

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

**ТЕМА ДНЯ**

## Обреченный!

**Счастья, которого многие с трепетом ждали последние два месяца, опять не случилось. Событие, к которому тщательно готовились политики в России и Беларуси, отложено на неопределенный срок. Интеграционный пафос развеялся, словно туман на берегах Невы. Что же тогда произошло в Санкт-Петербурге во время встречи Владимира Путина и Александра Лукашенко? Ровным счетом ничего!**

**О том, что пресловутый Конституционный акт Союза России и Беларуси готов и согласован сторонами, нам сообщают каждый месяц в течение полугода. Потом оказывается, что неожиданно появились новые поправки и текст надо *"немного доработать"*. Наконец, в ноябре президенты должны были встретиться в Москве и Акт утвердить. Без объявления причин встречу дважды переносили, хотя белорусский президент заявил толпе российских журналистов, что никаких разногласий нет и предложил саммит глав государств провести в декабре 2005-го в Минске, чтобы подчеркнуть особую роль Беларуси в священном деле единения славян. Встреча прошла в конце января в Санкт-Петербурге и не принесла интеграторам облегчения.**

**Чтобы высосать из поездки в Россию хоть какую-то пользу накануне выборов, Александру Лукашенко пришлось собирать в резиденции руководителей трех белорусских телеканалов и объяснять народу, что ничего страшного не произошло, и он по-прежнему велик и могуч. Неубедительность аргументов Лукашенко и чрезмерная резкость его угроз только подтверждает осторожные предположения экспертов, что белорусский президент "на нерве".**

**Кремль ставит перед Лукашенко конкретные вопросы и требует на них ясных ответов. Подписание Конституционного акта увязывается с решением конкретных экономических проблем — приватизация "Белтрансгаза" и введение единой валюты. Без этого очередной союзный договор в Москве считают бессмысленным. В России спешат получить минимальные экономические гарантии будущей интеграции накануне президентских выборов в Беларуси. В Москве не верят в победу оппозиции, но уже не считают и победу Лукашенко безусловной и неизбежной, а его будущее — безоблачным. *"Подождем до марта. Он все равно никуда не денется"*, — говорят в Москве. Говорят спокойно, даже лениво.**

***"Непреклонно одно, есть фундаментальный принцип построения союза — это принцип равноправия. На этом принципе мы и будем строить наш Союз, но если мы его нарушим, то не построим никакого Союза. Мы создадим проблемы для других поколений, даже, может, для самих себя, и потом будем их героически преодолевать. Да, я боюсь этого. Этого боится и российская сторона"*, — оправдывался Лукашенко по телевизору. Да ничего российская сторона не боится, она не видит больше в белорусском лидере сильного игрока, она уверена в его обреченности и, следовательно, управляемости.**

**Александр Лукашенко пытается демонстрировать свою силу, способность справиться с ситуацией внутри страны. Но маховик запущен, Запад не отступит. После президентских выборов осенью пройдут выборы в органы местного управления. Власть, устояв весной 2006-го, может рухнуть уже осенью. Россия, наверное, заступится, но только из принципа *"власть в обмен на объединение"*, а если нет объединения, то зачем им нужен Лукашенко, когда Кремль по рыночной цене и с Милинкевичем, и с Козулиным договорится. Поэтому всем так скучно и не интересно наблюдать за белорусским лидером, обреченным и предсказуемым.**

Павел ШЕРЕМЕТ.

**ГРАЖДАНСКАЯ ПОЗИЦИЯ**

## *Игорь Ледник и Александр Макаев предложили Конституционному суду оценить «деяния гражданина А.Г.Лукашенко в должности президента Республики Беларусь на соответствие статусу гаранта Конституции Республики Беларусь, прав и свобод человека и гражданина»*

В то время как А.Лукашенко по всем телеканалам убеждает людей в том, что *"не нужен им другой президент", житель г.Борисова Игорь Ледник и житель Минска Александр Макаев считают, что "деяния А.Г.Лукашенко образуют состав тяжких преступлений, являющихся основанием его смещения с поста президента Республики Беларусь в соответствии со статьями 3 и 88 Конституции Республики Беларусь". Они просят Конституционный суд "дать оценку перечисленным деяниям... гражданина А.Г.Лукашенко в должности Президента Республики Беларусь на соответствие статусу гаранта Конституции Республики Беларусь, прав и свобод человека и гражданина".*

На чем базируются требования активистов предпринимательского движения И.Ледника и А.Макаева? Вот фрагмент их заявления в Конституционный суд:

*"По итогам референдума 1996 года Лукашенко А.Г. без выборов продлил на два года свой президентский срок. По итогам референдума 2004 года он снял конституционные ограничения на свое пребывание у власти и тем самым ликвидировал механизм ее сменяемости. В нарушение статьи 78 Конституции Республики Беларусь и статьи 112 Избирательного кодекса Республики Беларусь он вынес на республиканский референдум 2004 года вопрос, связанный с его личным переизбранием на пост Президента Республики Беларусь. Издание Лукашенко А.Г.* ***неконституционного*** *указа №431 от 7 сентября 2004 года прямо подпадает под признаки преступлений, ответственность за которые предусмотрена ч.3 ст.424 и ч.2 ст.357 УК Республики Беларусь* ***(злоупотребление властью с целью ее удержания неконституционным путем).***

*В 1999—2000 годах в Республике Беларусь насильственному исчезновению подверглись Юрий Захаренко, Виктор Гончар, Анатолий Красовский и Дмитрий Завадский. Похищения видных политиков, оппонентов Лукашенко А.Г., вызвали огромный общественный резонанс в стране и за рубежом. Неисполнение им действий по раскрытию исчезновений политиков и причастности к ним высших должностных лиц, подтверждаемой документально, прямо подпадает под признаки преступления, предусмотренного ч.3 ст.425 УК Республики Беларусь* ***(бездействие должностного лица, занимающего ответственное положение)".***

Ранее И.Ледник и А.Макаев направили подобное заявление в Прокуратуру Республики Беларусь с требованием *"возбудить в отношении Лукашенко А.Г. уголовное дело по ч.3 ст.424 и ч.2 ст.357 УК Республики Беларусь за продление без выборов своих властных полномочий и снятие вопреки закону конституционных для них ограничений", а также возбудить уголовное дело "по ч.3 ст.425 УК Республики Беларусь за неисполнение им действий по раскрытию насильственных исчезновений Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского и Дмитрия Завадского".*

В заявлении, адресованном Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов, Игорь Ледник и Александр Макаев, как и в обращениях в Конституционный суд и Прокуратуру, подчеркивают: *"...нами заявлено о проведении действий в чужом интересе (глава 50 Гражданского кодекса Республики Беларусь). Наши действия осуществляются в интересах нескольких сотен тысяч граждан, осуществляющих предпринимательскую деятельность с образованием и без образования юридического лица".*

На тот момент, когда газетные полосы отправлялись в печать, не было известно о реакции соответствующих органов на вышеназванные заявления И.Ледника и А.Макаева. Но "Народная воля" будет следить за процессом их рассмотрения и информировать своих читателей.

**Петр КОЗЛОВСКИЙ.**

**РАЗВІТАННЕ**

## Памёр адзін з самых вядомых праваслаўных старцаў

Пра гэтага чалавека сярод праваслаўных людзей Беларусі хадзілі легенды. Казалі нават, што ён з'яўляўся духоўнікам мітрапаліта Філарэта. Апошнім часам ён моцна хварэў, але людзі з усіх куткоў свету прыязджалі ў Жыровічы, каб хаця глянуць на славутага старца Мітрафана. 1 лютага ў Жыровіцкім Свята-Успенскім манастыры адбылося пахаванне старэйшага насельніка манастыра схіархімандрыта Мітрафана (Мікалая Ільіна).

Старац Мітрафан памёр раніцай 30 студзеня на 90-м годзе жыцця ў выніку пятага па ліку мікраінсульту. Пасля літургіі ў Свята-Успенскім саборы адбылося адпяванне схіархімандрыта паводле манашаскага чыну. Па добраслаўленні мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі старац пахаваны на тэрыторыі манастыра за Крыжаўздзвіжанскім храмам.

Падчас памінальнага богаслужэння было абвешчана слова ўладыкі Філарэта. У ім гаворыцца, што *"айцец Мітрафан 37 гадоў нёс послух, у якім увасобілася яго любоў да людзей і вялікая духоўная адказнасць перад Богам за кожнага чалавека, які прыходзіць у храм".*

*"Працуючы ў свечачным памяшканні і прыняўшы за дзесяткі гадоў сотні тысяч памінальных запісак, ён старанна маліўся аб кожным імені, аб кожным чалавеку і аб яго сэрцы,* — зазначыў мітрапаліт Філарэт. — *Ці ж можна забыць вобраз ужо сагнутага гадамі старца, які познімі вечарамі падоўгу затрымліваўся ля ахвярніка і маліўся, маліўся аб усіх нас... Ён умацоўваў кожнаму чалавеку нябачныя крылы яго надзеі, адраджаў у спакутаваным сэрцы спадзяванні на Бога і вучыў людзей давяраць Богу. Ён меў на гэта права, таму што на падставе свайго асабістага духоўнага вопыту ведаў, як гэта зрабіць".*

Нарадзіўся айцец Мітрафан (Мікалай Ільін) 16 жніўня 1915 года на станцыі Ін Благавешчанскага павета Далёкаўсходняга краю. Пасля заканчэння школы, Тамбоўскага сельскагаспадарчага тэхнікума і Маскоўскага аўтадарожнага інстытута па спецыяльнасці "інжынер-механік", М.Ільін накіраваўся ў Бярозу-Картузскую (Брэсцкая вобласць), дзе яго і напаткала Вялікая Айчынная вайна. За подзвігі, праяўленыя ў складзе партызанскага атрада імя Георгія Дзімітрава, што дзейнічаў на тэрыторыі Брэсцкай вобласці, быў узнагароджаны медалём "За адвагу". Пасля вайны працаваў начальнікам дарожнага аддзела ў Пружанах, а затым механікам дарожнага эксплуатацыйнага ўчастка ў Кобрыне, начальнікам сховішча на ваеннай базе ў Серпухаве і галоўным інжынерам пуцявых дарожных майстэрняў у Пінску.

3 сакавіка 1958 года паступіў у лік браціі Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра. Праз паўтара месяца Мікалая Ільіна пастрыгаюць у расафор з імем Георгій, а ў 1964 годзе ў мантыю з імем Мітрафан. У манастыры ён працаваў бухгалтарам, экскурсаводам і да 1997 года, калі захварэў і быў прызнаны інвалідам II групы, прымаў памінальныя запіскі. Па благаславенні свяшчэннакіраўніцтва айцец Мітрафан нёс таксама і старэчы послух, падтрымліваючы вялікую колькасць людзей і молячыся за іх Богу. Пасля цяжкай хваробы 24 кастрычніка 2001 года яго пастрыглі ў схіму.

**Лілія ВОРАНАВА.**

**ЭПІДЭМІЯ**

## *Ужо падабрана тэрыторыя пад могілкі для хворай птушкі*

Брэсцкі гарвыканкам зацвердзіў план мерапрыемстваў тэрміновага рэагавання на выпадак узнікнення ў горадзе птушынага грыпу.

Згодна з планам, які ўтрымлівае 25 пунктаў, каранцін у горадзе будзе аб'яўляцца пры выяўленні антыцел у сываратцы крыві птушкі і пацвярджэнні дыягназу птушынага грыпу. На гэты перыяд ствараецца апаратыўная група па барацьбе з захворваннем. Вакол ачага інфекцыі выстаўляюцца пасты з кругласутачным дзяжурствам з ліку супрацоўнікаў міліцыі, МНС і ветэрынарнай службы. Планам таксама прадугледжваецца выдзяленне зямельнага ўчастка паблізу ад Брэста для пахавання знішчанай птушкі.

У гарадскім аддзеле па надзвычайных сітуацыях вызначаны прыкладныя зоны магчымых ачагоў інфекцыі, у ліку якіх вадаёмы, дзе не выключана верагоднасць з'яўлення вясной пералётных птушак, што вернуцца з краін, дзе зафіксавана хвароба. Паводле слоў супрацоўнікаў санэпідслужбы, рэальнай небяспекі ўзнікнення на тэрыторыі вобласці ачагоў распаўсюджання птушынага грыпу на сённяшні дзень няма, аднак, на іх думку, неабходна ажыццяўляць жорсткія меры прафілактыкі і пастаянна кантраляваць сітуацыю. Яшчэ ў верасні мінулага года ў Брэсцкай вобласці быў распрацаваны план арганізацыйных, прафілактычных і супрацьэпідэміялагічных мерапрыемстваў па папярэджанні завозу і распаўсюджанні на тэрыторыі Брэстчыны "птушынага грыпу". Ветэрынарная служба вобласці вядзе маніторынг за станам птушкі і адсочвае сітуацыю. Толькі ў студзені было ўзята 92 пробы крыві птушак для аналізу, у тым ліку 22 — у дзікіх птушак. У гандлёвай сетцы і на рынках арганізаваны пастаянны кантроль за рэалізацыяй птушкі. Усе птушкафабрыкі ў вобласці працуюць у рэжыме закрытага прадпрыемства. А на Баранавіцкай птушкафабрыцы "Дружба" ўжо былі праведзены элементы вучэнняў на выпадак узнікнення небяспечнай інфекцыі. Плануецца яшчэ шэраг такіх мерапрыемстваў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

**ГРОМКОЕ ДЕЛО**

## Скоро суд над Автуховичем

*Суд над Николаем Автуховичем начнется 9 февраля в Гродно. Для волковысского предпринимателя это уже будет четвертый процесс в серии судов, связанных с его деятельностью.*

Хотя до суда осталось около недели, обвиняемый в уклонении от уплаты налогов на сумму более 300 миллионов рублей предприниматель Автухович еще не знакомился с материалами уголовного дела, по которому он был арестован, и из-за которого 74 дня держал голодовку в следственном изоляторе. Процесс состоится в суде Октябрьского района Гродно. Почему именно в этот суд передало дело Управление департамента финансовых расследований Гродненского госконтроля (УДФР) — непонятно: предприниматель прописан и вел деятельность в Волковыске, а следственный орган имеет областной статус и территориально расположен в Ленинском районе Гродно. Как сообщила супруга предпринимателя Елена Автухович, ее муж опасается, что власти будут максимально препятствовать присутствию журналистов на процессе.

Все претензии к Автуховичу касаются единственного аспекта — договора о возмездном оказании услуг, по которому предприниматель нанимал водителей для своих такси в фирме "Ника-Транс". После выхода в 2003 году Декрета президента № 4, ограничившего количество наемных работников индивидуального предпринимателя до трех человек, Автухович уволил своих работников и устроил их на фирму "Ника-Транс", а затем, заключив договор "аренды" водителей, рассчитывался непосредственно с фирмой. Но следствие считает, что Автухович должен был зарегистрировать свою фирму, а 300 миллионов, это, по мнению следствия, именно та сумма, которую эта фирма заработала бы за полтора года.

Автухович же уверен, что его схема работы была законной. Он говорит, что просто воспользовался прорехой в законодательстве, которую не предусмотрел Декрет № 4. Кроме положительного заключения Национального банка, который высказался в пользу предпринимателя, косвенным подтверждением правоты Автуховича является президентский Указ № 285. В этом документе специально оговорен запрет на подобные договоры, однако действует он с 1 августа 2005 года.

Неизвестно, сможет ли Автухович присутствовать на своем уголовном процессе 9 февраля. По словам Елены Автухович, со времени выхода из голодовки протеста он поправился на 10 килограммов, хотя, голодая в СИЗО, потерял 40. Он слаб, появились боли в спине. Пищеварение не восстановилось: даже легкие каши Автухович может есть только запивая лекарствами.

**Ирина ЧЕРНЯКОВА.**
*www.euramost.org*

Народная Воля 3-4 ЛЮТАГА 2006 г.

КОМПЕТЕНТНЫЙ СОБЕСЕДНИК

## *Владимир ПОЗНЕР:*

# «Лукашенко не вечен...»

*Даже если бы завтра в результате выборов в Беларуси произошли серьезные изменения во власти, не было бы Лукашенко, а пришел кто-то, скажем, похожий на Ельцина или Горбачева, то спешить с объединением не следовало бы ни в коем случае. Об этом в интервью "Белорусскому партизану" заявил известный журналист, автор и ведущий программы "Времена" Владимир Познер.*

**— Владимир Владимирович, почти 10 лет назад Вы первый раз участвовали в большом обсуждении перспектив объединения России и Беларуси — тогда очень много об этом писали, снимали передачи на телевидении, много мнений и различных точек зрения высказывали эксперты. Сейчас эта проблематика вновь активно муссируется. Говорят о скором принятии Конституционного акта и даже о проведении референдума в двух государствах. Вполне вероятно, что Вам опять придется участвовать в этих обсуждениях. По Вашему мнению, что-нибудь изменилось в обществе по отношению к этой теме? Изменилось ли Ваше личное отношение к этому вопросу?**

— Мне кажется, что в российском обществе мало что изменилось. Думаю, что большинство россиян по-прежнему хотели бы, чтобы было единое государство, безусловно, считая, что место России в этом государстве является главным. Так было и, мне кажется, настроения остались такими же. Что касается лично меня, то я и тогда не считал союз возможным, и сегодня не считаю его возможным. И думаю, что за эти годы, учитывая то, как развивались Россия и Беларусь, различия между ними стали еще большими. Причем стали большими и психологические различия, которые людям, может быть, не так видны. Мне кажется, что россияне все-таки меняются и довольно заметно. А белорусы остались такими, какими были. Это в какой-то степени, если представить это объединение сейчас, может напомнить объединение ГДР и ФРГ. Подавляющее большинство жителей ГДР мечтало о воссоединении, но совершенно не представляло себе, что такое **рыночное общество.** Очень не просто все это было. При том, что ФРГ очень богатое государство, что выделялись гигантские деньги на поднятие ГДР, все равно там осталось очень много людей, которые недовольны. Более того, они хотели бы вернуться в прошлое состояние. Ясно, что Беларусь не ГДР, а Россия не ФРГ, но нечто похожее могло бы произойти.

Так что моя позиция такова: даже если бы завтра в Беларуси в результате выборов произошли серьезные изменения во власти, не было бы Лукашенко, а пришел бы кто-то, скажем, похожий на Ельцина или Горбачева, то спешить с объединением не следовало бы ни в коем случае.

**— Если за 10 лет Беларусь и Россия не стали ближе, а, наоборот, отошли друг от друга, то почему, по Вашему мнению, тема объединения не утихает, почему и российское общество, и даже элита эту тему так охотно поддерживают и даже эксплуатируют?**

— Думаю, это связано с имперскими настроениями и даже с имперским нутром большинства россиян.

Я как-то пробыл два месяца в Португалии. Меня совершенно поразили настроения жителей этой страны: они живут с каким-то взглядом назад, во времена XV—XVI веков, когда Португалия была мощнейшей державой, открывшей очень многое в Латинской Америке и даже в Китае и Японии. И потом они лишились всего этого. Но ностальгия по великой Португалии продолжает жить и в песнях, и в музыке, и в помыслах людей, которые прекрасно понимают, что этого никогда не будет. Но вот этот след остался. Мне кажется, что для россиян очень долго будут болеть эти "отрубленные" части империи, которая никогда не вернется. И на любое предложение об объединении с кем бы то ни было — с Беларусью, Украиной и так далее, уверяю вас, они будут говорить "да!". То есть, с одной стороны, народ подсознательно хочет этого, а с другой — элита, конечно, "играет" свою политику, играют разные политические партии, без сомнения, прекрасно чувствуя народные настроения. Собственно, на этих настроениях они и играют.

**— Европейские политики и уж тем более американские резко отрицательно относятся к Лукашенко, а российские в основном говорят: да, может быть, он лично нам не совсем приятен, но, как недавно сказал Затулин, "писать против ветра бессмысленно". Поэтому мы, исходя из своих интересов, должны с ним сотрудничать. На Ваш взгляд, насколько далеко должна зайти Россия в отношениях с Лукашенко на фоне международного давления на белорусский режим и не повторится ли ситуация, которая произошла с Милошевичем?**

— Конечно, всякая страна во взаимоотношениях с кем угодно должна исходить из своих собственных интересов. С другой стороны, нужно взвесить: для долгосрочных интересов России важнее сейчас поддерживать Лукашенко или все же важнее принять точку зрения Запада на Лукашенко как на диктатора, нарушающего законы и права человека?

Я не хотел бы быть в положении человека, который должен решать эту проблему. Поскольку я не приемлю Лукашенко, мне эмоционально проще принять точку зрения Запада и сказать: а зачем это нам нужно? С другой стороны, я вспоминаю знаменитое изречение Гарри Трумена по поводу Самосы: *"Да, это сукин сын, но это наш сукин сын".*

Все-таки возникает вопрос: "Лукашенко — наш сукин сын?" Вот тут у меня есть сомнения. Самоса целиком и полностью в своей политике, в своем поведении зависел от Соединенных Штатов Америки, был антикоммунистом, так же как США, и действовал соответствующим образом. А вот в какой степени Лукашенко является "нашим сукиным сыном"? Я считаю, что нужно именно это рассматривать. Если все-таки наш, то можно учитывать это. Но я повторяю: у меня на этот счет есть сомнения. И если я прав в своих сомнениях, то его не надо поддерживать, потому что мы теряем в глазах западной общественности престиж.

**— Владимир Владимирович, несмотря на то, что для российского общества тема объединения актуальна, люди охотно об этом говорят, хотят этого объединения, несмотря на то, что для многих российских политиков это какой-то политический ход, почему на российском телевидении, в частности, в программе "Времена", так редко появляются репортажи из Беларуси, так редко обсуждается белорусская ситуация, особенно по сравнению, скажем, с украинской?**

— По сравнению с украинской — очевидно. Такого противостояния, такого конфликта, национального и прочего, между Беларусью и Россией нет. В этом смысле Лукашенко все-таки не смотрит на Запад.

Есть российско-белорусские отношения. Ну, отношения и отношения, не лишенные какого-то драматизма. Поэтому, собственно, нечего обсуждать. Если обсуждать, что происходит внутри Беларуси, как отдельную тему, это, прямо скажем, стремно. Потому что нам могут сказать: "Вмешательство в наши внутренние дела". Значит, как это можно обсудить? Вероятно, в плане какого-то события, например, того же предполагаемого объединения. И обсуждать надо вопросы: как, с кем, на какой основе, с какими политическими реалиями. То есть только если будет какое-то событие, от которого можно было бы оттолкнуться.

А то, что вообще Беларусь на наших каналах не очень фигурирует, объясняется тем, мне кажется, что есть определенный политический заказ: не трогайте! В конце концов Лукашенко не вечен, поэтому лучше не обострять отношения.

---

## *Еўрасаюз заклікае*

**Савет Еўрапейскага Саюза па агульных пытаннях і знешніх сувязях выказаў заклапочанасць пагаршэннем сітуацыі ў сферы дэмакратыі, правоў чалавека і палітычных свабод у Беларусі і звярнуўся да беларускіх улад з заклікам забяспечыць свабодныя і справядлівыя выбары ў сакавіку ў адпаведнасці з абавязацельствамі Беларусі ў АБСЕ і ААН.**

Як паведаміла прэс-служба Савета, міністры замежных спраў краін ЕС віталі рашэнне аб запрашэнні прадстаўнікоў Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ для назірання за выбарамі і адзначылі гатоўнасць краін — членаў арганізацыі ўзяць у гэтым удзел. Савет заклікаў беларускія ўлады дазволіць місіі БДІПЧ АБСЕ бесперашкодна працаваць. Апрача таго, у звароце кіраўнікоў МЗС ЕС утрымліваецца заклік да ўрада Беларусі зарэгістраваць усіх прэтэндэнтаў, якія выканалі неабходныя ўмовы, даць кандыдатам роўны доступ да дзяржаўных СМІ і дазволіць мясцовым і замежным СМІ свабодна асвятляць выбарчую кампанію. Савет ЕС таксама чакае, што беларускія ўлады поўнасцю выканаюць рэкамендацыі з даклада БДІПЧ АБСЕ аб парламенцкіх выбарах 2004 года ў ходзе бягучай кампаніі.

Савет ЕС па агульных пытаннях і знешніх сувязях заяўляе пра намер працягваць назіранне за сітуацыяй у Беларусі і выказвае гатоўнасць зрабіць адпаведныя абмежавальныя захады ў дачыненні да адказных асоб у выпадку, калі беларускі бок не будзе прытрымлівацца міжнародных стандартаў у галіне выбарчага працэсу, у прыватнасці АБСЕ. Савет таксама пацвярджае сваю падтрымку ініцыятыў, накіраваных на дэмакратызацыю і аказанне дапамогі грамадзянскай супольнасці Беларусі, а таксама развіццё сувязяў паміж жыхарамі ЕС і рэспублікі.

"Савет ЕС узгадвае аб імкненні Еўрасаюза мець больш цесныя і актыўныя адносіны з Беларуссю — у тым ліку ў рамках Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве і Еўрапейскай палітыкі добрасуседства — калі беларускія ўлады выразна прадэманструюць сваю прыхільнасць да дэмакратычных каштоўнасцяў, правоў чалавека і вяршэнства закону", — гаворыцца ў дакуменце.

Як паведамлялася раней, 30 студзеня кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў краін ЕС сустрэліся з адзіным прэтэндэнтам на пасаду прэзідэнта Беларусі ад дэмакратычных сіл Аляксандрам Мілінкевічам і кіраўнікамі штаба яго падтрымкі.

**Марына РАХЛЕЙ.**

---

ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## *Другое папярэджанне камуністам*

Партыя камуністаў Беларуская (ПКБ) атрымала другое пісьмовае папярэджанне Міністэрства юстыцыі аб парушэнні заканадаўства.

Як паведаміў сакратар Цэнтральнага камітэта ПКБ Валерый Ухналёў, папярэджанне вынесена за парушэнне Закона "Аб палітычных партыях". Падставай для вынясення папярэджання стаў ліст лідэра ПКБ Сяргея Калякіна да ўсіх кіраўнікоў мясцовых выканаўчых камітэтаў, які тычыўся фарміравання тэрытарыяльных выбарчых камісій. У ім палітык заклікаў выканкамы выконваць патрабаванне Выбарчага кодэкса, якое прадугледжвае ўключэнне ў склад выбарчых камісій прадстаўнікоў палітычных партый. Гэтае патрабаванне было ўспрынята Міністэрствам юстыцыі як умяшанне ў дзейнасць "дзяржаўных органаў і службовых асоб".

*"Мы лічым, што гэта надуманае абвінавачанне. Наш ліст грунтаваўся на патрабаваннях выбарчага заканадаўства. Мы толькі нагадвалі кіраўнікам мясцовых органаў выканаўчай улады аб іх абавязку выконваць закон",* — зазначыў В.Ухналёў.

Вынясенне папярэджання па такіх падставах сакратар ЦК ПКБ назваў "прыцягнутым за вушы" і заявіў, што яно будзе абскарджана ў Вярхоўным судзе.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

---

## *Перамовы паміж Казуліным і Мілінкевічам*

**Аб карэктных узаемаадносінах і супрацоўніцтве пры назіранні за ходам выбарчай кампаніі дамовіліся прадстаўнікі штабоў падтрымкі Аляксандра Мілінкевіча і Аляксандра Казуліна.**

Члены каманды Аляксандра Казуліна агучылі ініцыятыву аб зліцці каманд у выпадку нерэгістрацыі аднаго з кандыдатаў. У сваю чаргу прадстаўнікі штаба адзінага прэтэндэнта прапанавалі "не аддаваць пытанне аб дэмакратычных кандыдатах на разгляд улады, а вызначыць яго па ўзгодненых крытэрыях яшчэ да рэгістрацыі".

А.Казулін накіраваў А.Мілінкевічу ліст з прапановай падтрымаць яго ў выпадку нерэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты і гатоўнасцю ўзяць на сябе такія ж абавязацельствы. Былы рэктар Белдзяржуніверсітэта прапанаваў адзінаму прэтэндэнту арганізаваць сумеснае назіранне за выбарамі і аб'яднаць намаганні ў ходзе агітацыі — "галоўнага этапа выбарчай кампаніі".

Аляксандр Мілінкевіч заявіў у інтэрв'ю БелаПАН, што яго каманда заўсёды гатова "да дыялогу з іншымі кандыдатамі". Паводле яго слоў, у лісце ёсць пункты, па якіх ужо можна весці перамовы, напрыклад, аб арганізацыі сумеснага назірання за выбарамі. У той жа час А.Мілінкевіч выказаў меркаванне, што здымаць сваю кандыдатуру нікому з прэтэндэнтаў не давядзецца, паколькі ўлады зарэгіструюць і яго, і А.Казуліна.

Сярод крытэрыяў, на якія неабходна абапірацца пры вядзенні перамоў, А.Мілінкевіч назваў рэйтынгі і колькасць сабраных подпісаў. Паводле даных Цэнтрвыбаркама, у тэрытарыяльныя камісіі перададзена 198.798 подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатам у прэзідэнты А.Мілінкевіча і 158.014 подпісаў у падтрымку А.Казуліна.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

---

ДЗІКУНСТВА

## *Рабы ў Чэрыкаўскім раёне*

Як паведамляюць інфармагенцтвы, у Чэрыкаўскім раёне днямі пачнецца суд над грамадзянінам Расіі, які на працягу двух гадоў трымаў у рабстве каля дзесяці чалавек.

Заяву ў міліцыю праз сакратарку мясцовага сельсавета здолеў перадаць адзін з рабоў. Іншага спосабу вырвацца ў людзей не было: усе спробы збегчы аказаліся няўдалымі.

"Рабаўладальнік" браў для працы на сваім падвор'і людзей, якіх лёгка мог кантраляваць і запалохваць: альбо з псіхічнымі адхіленнямі, альбо раней судзімых. Апошніх ён запалохваў тым, што ў выпадку іх уцёкаў ён сам напіша заяву ў міліцыю з абвінавачваннем у крадзяжы. Такая "псіхалагічная работа", збіенні, пагрозы рабілі з людзей рабоў, якія баяліся нават і думаць пра ўцёкі.

**Алена НОВІКАВА.**

---

СЛЕДСТВА

## *Чужыя грошы шчасця не прыносяць*

Супрацоўнікамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі ў сваім службовым кабінеце пры атрыманні хабару ў 900 долараў ЗША затрыманы тэхнічны дырэктар ААТ "Мінск-ЛАДА" Аляксандр Гладкоў.

Як паведамілі БелаПАН у Камітэце дзяржбяспекі, А.Гладкоў неаднаразова вымагаў грашовыя сродкі ў прадстаўніка адной з камерцыйных структур Мінска за вырашэнне пытання аб перадачы ў арэнду плошчаў, што належаць гэтаму прадпрыемству.

Па гэтым факце ў Камітэце дзяржбяспекі распачата крымінальная справа. Затрыманы змешчаны ў следчы ізалятар КДБ. Праводзіцца расследаванне.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

---

РУБАМ!

## *Калякін патрабуе зняць Лукашэнку з дыстанцыі*

**"Аляксандр Лукашэнка, хацеў бы ён гэтага ці не, сёння, згодна з законам, павінен быць зняты з дыстанцыі і не зарэгістраваны", — заявіў на прэс-канферэнцыі ў Мінску кіраўнік штаба адзінага прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта ад дэмакратычных сіл Аляксандра Мілінкевіча Сяргей КАЛЯКІН.**

*"З боку ўлады мы назіраем сёння суцэльную крымінальную справу, злачынства, ... у якое ўцягнуты кіраўнікі прадпрыемстваў, адміністрацый, выканаўчай улады, навучальных установаў, работнікі медыцынскіх устаноў, і, што самае небяспечнае, сюды ўцягнуты работнікі праваахоўных органаў і пракуратуры, якія павінны стаяць на варце закону",* — сказаў Калякін.

Паводле яго слоў, у ініцыятыўнай групы Мілінкевіча ёсць інфармацыя пра тое, што "ва ўсіх органах унутраных спраў і пракуратуры праводзіўся прымусовы збор подпісаў за Аляксандра Лукашэнку". *"Прычым у гэтым удзельнічалі адміністрацыі прадпрыемстваў, што напрамую забаронена Выбарчым кодэксам",* — зазначыў палітык.

Паводле слоў Калякіна, *"ажыццяўляўся татальны гвалт над людзьмі, якія, карыстаючыся выбарчым правам, збіралі подпісы за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча". "Тыя людзі, якія былі ў нашай групе, якія дзесьці вучыліся, дзесьці працавалі, усе былі запрошаны на размову ў адміністрацыі прадпрыемства ці навучальнай установы. У розных выпадках з імі па-рознаму вялася размова: ад угаворвання да прамых пагроз і подкупу...",* — расказаў Калякін.

Ён таксама зазначыў, што звароты ў праваахоўныя органы з патрабаваннем адрэагаваць на падобныя факты не даюць вынікаў. *"Ніводнай крымінальнай справы не распачата. Я раблю выснову, што праваахоўная сістэма Беларусі сёння не выконвае сваіх прамых абавязкаў. Цэнтральная выбарчая камісія таксама не ў стане паўплываць на гэтую сітуацыю і таксама не выконвае ў поўным аб'ёме сваёй функцыі",* — заявіў Сяргей Калякін.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

---

ПАЛІТКУХНЯ

# У Еўропе Мілінкевічу апладзіруюць, у Мінску ўлады сціскаюць зубы...

Нельга не звярнуць увагу на такі факт: за кароткі час Аляксандр Мілінкевіч, які прэтэндуе на пасаду прэзідэнта Беларусі, аб'ехаў амаль паў-Еўропы, сустрэўся з кіраўнікамі шэрагу дзяржаў. Такіх візітаў А.Лукашэнка не меў, лічы, за дванаццаць гадоў.

Вядучыя СМІ паведамілі пра выступленне А.Мілінкевіча ў Еўрапарламенце. Характарызуючы ацэнку Еўрапейскім Саюзам сітуацыі ў Беларусі, адзіны прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта ад дэмакратычных сіл Беларусі адзначыў, што ЕС *"цвёрда стаў на пазіцыі абароны дэмакратычнай будучыні Беларусі".*

*"Нельга пераацаніць важнасць гэтага сігналу для беларускага грамадства, якое пачуваецца еўрапейскім і прагне еўрапейскага выбару, а не навязанай уладай самаізаляцыі са зваротам у савецкую мінуўшчыну",* — сказаў ён.

Мілінкевіч таксама заявіў, што ўлада не плануе выбараў на 19 сакавіка. Пры цяперашнім выбарчым заканадаўстве і выбарчай практыцы, у атмасферы страху, якім аблытваюць і працаўнікоў дзяржаўных установаў, і студэнтаў, і прадпрымальнікаў, гэта будзе чарговая маніпуляцыя і фарс, але не адлюстраванне волі беларускага народа. Аб'яднаныя дэмакратычныя сілы перакананыя, што людзі не змірацца з падманам і захочуць абараніць свой гонар і годнасць. Мы ўпэўнены, што пры любым зыходзе падзей 19 сакавіка мы захаваем і ўмацуем нашу стратэгічную еднасць, а аб'яднаная Еўропа не адвернецца ад дэмакратычнага беларускага грамадства, не вырашыць пацiху прызнаць status quo, але будзе займаць прынцыповую пазіцыю. Бо шлях маёй Бацькаўшчыны да свабоды цяпер мае найбольш рэальныя абрысы, чым калікольвек раней за лукашэнкавай уладай. Трэба прызнаць, што аб'яднаная Еўропа не выпрацавала сістэмнага падыходу да "беларускай праблемы". Важна, што апошнім часам асноўныя еўрапейскія інстытуцыі паслядоўна не прызнаюць вынікі ладжаных уладай з грубымі парушэннямі агульнапрынятых дэмакратычных стандартаў "рэферэндумы" і "выбары". Тым не менш з боку асобных нацыянальных урадаў меў месца пэўны флірт з рэжымам у Мінску — у шчырым ці прагматычным спадзяванні, што рэжым зменіць паводзіны. Але быў час пераканацца, што гэты рэжым нерэфармавальны па сутнасці. Ані пуга, ані пернік на яго не дзейнічаюць. Варта яшчэ раз вярнуцца да так званага "двухбаковага падыходу" адносна Беларусі, але з акцэнтам на яго другую частку — супрацоўніцтва з дэмакратычнай Беларуссю.

Неабходны эфектыўны і аператыўны механізм дапамогі ўсім тым, каго ўлады, не здолеўшы запалохаць, пераследуюць пры дапамозе юрыдычных альбо эканамічных захадаў: садзяць у турмы, штрафуюць, выганяюць з працы і універсітэтаў. Рэжым у Беларусі цвердзіць, што аб'яднаная Еўропа зачыняецца ад беларусаў. Але мы ведаем, што менавіта ён вядзе палітыку самаізаляцыі. Таму патрэбна як найбольш візавых палёгкаў для звычайных грамадзян і шматлікія праграмы падтрымкі мэтавых абменаў, найперш маладзёжных.

Мілінкевіч выказаўся за абмежаванне альбо закрыццё магчымасці выязджаць у еўрапейскія краіны і замарожванне там банкаўскіх рахункаў для ўсіх службовых асоб (незалежна ад рангу), вінаватых у парушэннях правоў чалавека ў Беларусі, ва ўжыванні сілы супраць мірных грамадзян, у выбарчых фальсіфікацыях, а таксама супрацоўнікаў дзяржаўных сродкаў масавай прапаганды. Не абмінуў і тэму беларуска-расійскіх дачыненняў: *"Роля Расіі для Беларусі традыцыйна вельмі важная. Аднак нізкія цэны на энерганосьбіты, часова даючы беларускай эканоміцы магчымасць трымацца на плаву і на замежных рынках, разам з тым не даюць ёй развівацца. Еўрапейская супольнасць, угрунтаваная на адпаведных каштоўнасцях, мусіла б паслаць ясны сігнал Маскве пра тое, што яна засталася самотнай у сваёй падтрымцы апошняй дыктатуры Еўропы і рызыкуе на гэтым страціць. Мы чакаем, што Еўрасаюз запатрабуе ад Расіі ўвязаць падтрымку, якую атрымлівае ад яе Лукашэнка, са зменамі ў галіне дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі".*

Аляксандр Мілінкевіч перакананы, што Еўропа павінна ўдзельнічаць у працэсе дэмакратызацыі Беларусі сістэмна і нягледзячы на часовую кан'юнктуру. Толькі тады яна паслужыць сапраўды спрыяльным кантэкстам для глыбінных пераўтварэнняў на карысць дэмакратыі ў Беларусі.

*"Ніхто за нас не выканае гэтую місію: пазбавіць людзей страху, вярнуць ім гонар, свабоду, праўду і справядлівасць",* — закончыў свой выступ Аляксандр Мілінкевіч.

Дэпутаты Еўрапарламента праводзілі Мілінкевіча працяглымі апладысментамі. А вось беларускае Міністэрства замежных спраў даволі нервова адрэагавала на вояж Мілінкевіча. Не спадабаўся МЗС удзел прадстаўнікоў аб'яднаных дэмакратычных сіл у пасяджэнні Савета ЕС па агульных пытаннях і знешніх адносінах.

*"Мы некалькі здзіўлены такім падыходам з боку кіраўніцтва Еўрапейскага Саюза,* — заявіў выконваючы абавязкі прэс-сакратара МЗС **Андрэй Папоў**. — *Тым больш зараз, калі ідзе ўзаемная прапрацоўка тэрмінаў візіту высокапастаўленых прадстаўнікоў Генеральнага сакратарыята Савета ЕС і Еўрапейскай камісіі ў Мінск. Не варта забываць, што выбары будуць праходзіць на беларускай зямлі, а не ў Страсбургу, Брусэлі, Парыжы альбо Варшаве".*

Трэба заўважыць, што візіт Мілінкевіча асвятлялі амаль усе еўрапейскія і сусветныя сродкі масавай інфармацыі. Напрыклад, тэлеканал "Еўраньюс" перадаваў інфармацыю пра Мілінкевіча кожную гадзіну.

"*Такое ўражанне, што многія еўрапейскія палітыкі выступаюць у ролі Калумба — яны адкрываюць для сябе новую Беларусь,* — заўважыў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька.** — *І гэта вельмі прыемна — гэта тое новае, чаго не было раней..."*

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

Народная Воля
3-4 ЛЮТАГА 2006 г.

ЗАКУЛИСЬЕ

# Ирину Абельскую выдвигают на Государственную премию Беларуси?

Главврач Республиканской больницы Управления делами президента Ирина Абельская, которую все знают как первого лечащего доктора А.Лукашенко, в группе ученых выдвинута на госпремию Беларуси за 2005 год в области науки и техники.

Руководитель группы — директор Республиканского научно-практического центра неврологии и нейрохирургии, профессор **Сергей Лихачев**. В состав команды, чей общий труд может быть высоко оценен государством, вошли также директор НИИ медико-социальной экспертизы и реабилитации, профессор **Василий Смычек**, бывший руководитель липидного центра клиники Витебского государственного университета, ныне декан факультета иностранных студентов Белорусского государственного медицинского университета, профессор **Эдуард Доценко**, академик Белорусской инженерной академии, врач отделения баротерапии 5-й городской клинической больницы Минска **Валерий Козыро**, начальник Центра по санаторно-курортной работе Управления делами президента **Олег Михайлов**.



Решение о выдвижении работы медиков на Государственную премию было принято 20 января 2006 года на ученом совете Республиканского научно-практического центра неврологии и нейрохирургии. До 1 февраля научный труд должен был поступить в Национальную академию наук Беларуси, где регистрируются работы, касающиеся всех сфер деятельности. В НАН Беларуси и принимается окончательное решение относительно того, кто будет участвовать в конкурсе на получение госпремии. К слову, в прошлом году перечень выдвинутых на конкурс работ был достаточно велик — около 80 предложений. А самой главной премии страны удостоились только 9 работ.

Каким будет нынешний конкурс, пока неизвестно. В отделении премий и стипендий Национальной академии наук говорят, что в прессу поступит информация только о победителях конкурса. А число претендентов на госпремию, общественности знать необязательно. По нашей информации, работа медиков под руководством профессора Сергея Лихачева была направлена в НАН Беларуси буквально в последние дни отведенного для регистрации срока. Труд врачей посвящен диагностике и лечению нервной системы.

Безусловно, несколько удивляет появление в этом списке фамилии Ирины Абельской. Еще недавно общественности она была известна только как лечащий доктор Лукашенко. Ирина Степановна сопровождала его во всех поездках по стране, на различных государственных мероприятиях. В 2001 году Ирина Абельская возглавила главное медицинское учреждение страны — Республиканскую больницу Управления делами президента. Назначение Абельской проходило шумно и со скандалом. Бывший главврач президентской клиники был отстранен от должности, а прокуратура страны возбудила уголовное дело по факту бездействия и халатности служебных лиц клиники. А.Лукашенко заявил тогда на всю страну, что направляет в лечкомиссию своего личного врача создавать "школу современной медицины". Для реализации эксперимента в клинику было передано самое современное медицинское оборудование. Больница обзавелась и новыми площадями — ей были переданы здания Центра радиационной медицины и 4-й детской больницы. Сегодня Республиканская больница предлагает платные услуги едва ли не по всем областям медицины.

А работоспособность главврача больницы просто удивляет и изумляет. Ирина Абельская умудрилась не только заняться реформированием отдельно взятой клиники, но и написать ряд научных трудов. 22 сентября 2004 года Ирина Степановна, находясь в декретном отпуске, буквально через месяц после рождения ребенка, успешно защитила кандидатскую диссертацию в НИИ онкологии и медицинской радиологии. Ее работа была посвящена лучевой диагностике шейного остеохондроза. По нашей информации, уже утверждена и тема докторской диссертации И.С.Абельской. И вот стало известно, что она вместе с другими медиками выдвигается на Государственную премию Беларуси за 2005 год.

Удастся ли этому коллективу стать лауреатами, покажет время. Окончательное решение о присуждении государственных премий должно быть принято не позднее июля 2006 года. В прошлом году накануне чествования лауреатов госпремии за 2004 год пресс-служба главы государства сообщила, что теперь в Беларуси вручение государственных премий станет традиционным и будет проходить в канун главного праздника страны — Дня независимости. Тогда же особо отмечалось, что в Беларуси *"существенно повысились требования к выдвигаемым работам". "Основными критериями,* — говорилось в сообщении пресс-службы президента, — *стали эффективность от внедрения новшества, его превосходство над лучшими мировыми аналогами, востребованность на практике, актуальность темы и соответствие экологическим стандартам.*

*Высокими являются и критерии оценки личности лауреата: безупречность научной и творческой репутации, широкая известность работ, исследовательская активность и настойчивость в вопросах внедрения разработок в производство, применения их на практике".*

К слову, в прошлом году среди 9 лауреатов был и коллектив медиков. Профессор Белорусского государственного медицинского университета **Станислав Третьяк** и его коллеги получили госпремию за новый хирургический метод лечения тяжелых форм сахарного диабета. Операции, которые разработали и внедрили лауреаты, нигде в мире еще не проводились...

А вот какими научными новшествами успела порадовать Ирина Абельская и имеют ли они "превосходство над лучшими мировыми аналогами", белорусская общественность пока не знает. Но может скоро узнать.

Размер Государственной премии определяет А.Лукашенко своим указом.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

**P.S.**

В последнее время циркулируют слухи о том, что Ирина Абельская уже не лечащий врач А.Лукашенко. Якобы теперь за здоровьем первого лица белорусского государства следят двое мужчин-медиков. Они сопровождают Александра Григорьевича в поездках по стране, в Администрации президента у них есть отдельный кабинет. Естественно, мы решили выяснить, так ли это на самом деле. И позвонили в пресс-службу главы государства.

Руководитель пресс-службы Павел Легкий интеллигентно уклонился от ответа. Он сказал, что отвечает только "за информацию, касающуюся президента", и порекомендовал адресовать вопрос относительно лечащего врача Александра Лукашенко руководителю Главного управления кадровой политики Администрации президента Ивану Васильченко. Выглядело логично. Где-где, а в "кадровом управлении" должны бы знать перечень должностей учреждения.

Однако Иван Васильченко пытался убедить меня в том, что данный вопрос тоже не в его компетенции.

— Откуда мне знать, есть ли у президента лечащий врач. Вы же видите, какой наш президент — здоровый, крепкий мужчина. Зачем ему лечащий врач? — рассуждал Иван Васильченко.

— Так есть такая штатная единица в Администрации или нет? — настаивала я. Но ответа так и не получила.

Мне вспомнился диалог с Иваном Васильченко почти годичной давности. Тогда нам стало известно, что старший сын главы государства Виктор Лукашенко получил ответственный пост в Администрации отца. Лукашенко-старший назначил его своим помощником по национальной безопасности. Естественно, мы попытались получить официальное подтверждение или опровержение данной информации. И начальник Главного управления кадровой политики Администрации президента Иван Васильченко заявил нам в телефонной беседе, что в Администрации президента сотрудника Виктора Лукашенко нет. Однако чуть позже в интервью российскому телеканалу ТВЦ Александр Григорьевич признался: *"Мой старший сын работает у меня помощником по военным вопросам"...*

Возможно, когда-нибудь А.Лукашенко ответит и на вопрос о лечащем враче. Рассекретит еще одну "государственную тайну".

З НАГОДЫ

# У чаканні першай лэдзі

*Неяк у нядзелю вечарам слухала перадачу Радыё Свабода "Прыватны дзённік". Жонка прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта Аляксандра Мілінкевіча* ***Іна КУЛЕЙ*** *распавядала аб тым, якія падзеі адбываліся ў яе сям'і ў апошні час, як яны традыцыйна сустракалі Каляды і Новы год, і ўжо ў каторы раз за апошнія 10 гадоў мне падумалася: як не хапае Беларусі першай лэдзі! Жанчыны, якая б іграла адметную ролю ў грамадстве, прадстаўляла нашу краіну ў свеце, якая, дарэчы, проста задавала б тон у модзе, бізнесе альбо ў іншых галінах жыцця.*

Па традыцыі, якая ўсталявалася ў цывілізаваным свеце ўжо даўно, а ў былых савецкіх рэспубліках ў 90-я гады мінулага стагоддзя, жонка прэзідэнта — гэта, па сутнасці, афіцыйная асоба, якой прадпісаны спецыфічныя функцыі ў палітычным жыцці. У цывілізаваных краінах кандыдат на прэзідэнцкі пост не мае шанцу на перамогу, калі падчас выбарчай кампаніі ён не прадставіць электарату сваю другую палавіну. Жонка павінна быць яго паплечнікам, сябрам, а прэзідэнцкая сям'я — узорам для ўсіх сямей краіны. Тое, як яна апранута, як паводзіць сябе перад тэлекамерамі, як адказвае на пытанні журналістаў, мае не меншае значэнне, чым перадвыбарная праграма кандыдата...

Калісьці присутнасць побач з першым прэзідэнтам СССР ягонай жонкі Раісы Гарбачовай зрабіла рэвалюцыю ў савецкім грамадстве. Урэшце савецкая краіна магла накшталт любой заходняй дзяржавы ганарыцца сваёй першай лэдзі. Хтосьці называў Міхаіла Гарбачова падкаблучнікам, крытыкаваў за ўплыў на ягоныя рашэнні Раісы Максімаўны, але ўсе адзначалі ўменне першай лэдзі СССР годна трымаць сябе на людзях, яе бездакорны густ, лёгкасць, з якой яна ўвайшла ў кола першых лэдзі свету.

Напэўна, беларусы таксама хацелі б чытаць у калонках афіцыйных паведамленняў і свецкіх хронік аб візіце, напрыклад, першай лэдзі Беларусі ў ЗША альбо Вялікабрытанію і аб яе сустрэчы з жонкай амерыканскага прэзідэнта альбо жонкай англійскага прэм'ера. Сачыць па тэлебачанні за яе прамовамі, яе туалетамі.

Мне заўсёды робіцца прыкра за нашу краіну, калі я чытаю інфармацыю кшталту: "Кацярыне Юшчанка трэба аддаць належнае. Яна зламала ўсе стэрэатыпы традыцыйных адносін да першай лэдзі. Звычайна іх ацэньваюць па ўбранні, і пачынаецца гэта ў той самы момант, калі яе муж чытае сумную інаўгурацыйную прамову. Падчас інаўгурацыі Віктара Юшчанкі Кацярына выглядала годна ў белым кашаміравым касцюме. Пазней украінская грамадскасць ацаніла па заслугах розум, вернасць і патрыятычнасць спадарыні Юшчанка. Першая лэдзі Украіны патраніруе дзіцячыя дамы, падтрымлівае ўкраінскія музеі і тэатры".

Азербайджанцы знаходзяцца ў захапленні ад жонкі свайго прэзідэнта Мехрыбан Аліевай, нават абралі яе дэпутатам парламента. Грузіны са сваім выразна акрэсленым нацыянальным пачуццем на ўра прынялі першую лэдзі Грузіі — галандку Сандру Рулаўс. Яна падабаецца ім не толькі за тое, што вывучыла грузінскую мову і прыняла праваслаўе, але яшчэ і таму, што Сандра разумная, разважлівая жанчына. Як адзначае грузінская прэса, яе спакойны характар і стрыманы стыль паводзін ураўнаважвае эмацыянальны нораў Міхаіла Саакашвілі.

У беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі таксама ёсць жонка. Аднак апошнія 10 гадоў першая лэдзі Беларусі наогул не з'яўляецца на шырокай публіцы. Яна не суправаджае Аляксандра Рыгоравіча ў рэдкіх замежных камандзіроўках, не прысутнічае на афіцыйных прыёмах, яе не паказваюць па тэлебачанні. Хоць восенню мінулага года ў інтэрв'ю "Камсамольскай праўдзе" ў Беларусі" Галіна Радзівонаўна і сказала, што афіцыйна яна знаходзіцца ў шлюбе з Аляксандрам Лукашэнкам, дэ-факта яны жывуць асобна. І калі ў першыя гады праўлення Аляксандра Рыгоравіча Галіна Лукашэнка раз-пораз давала інтэрв'ю і пазіравала перад фотааб'ектывамі, то потым яе "схавалі". Цікава, але на імідж Лукашэнкі яго дзіўнае сямейнае жыццё не надта ўплывае. Ці гэта толькі падаецца?..

**Вера СМОЛЬСКАЯ.**



ПАМЯЦЬ

## Ці будзе ў Беларусі музей Халакоста?

**Кіраўніцтва Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын (СБЯГАА) звярнулася да грамадзян Беларусі з просьбай падтрымаць ідэю стварэння ў Мінску музея Халакоста.**

Пра гэта БелаПАН заявіла намеснік старшыні СБЯГАА, дырэктар грамадскага музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі, кандыдат гістарычных навук Іна ГЕРАСІМАВА.

Паводле яе слоў, летам мінулага года кіраўніцтва саюза звярталася з гэтым пытаннем да кіраўніка дзяржавы. *"Аднак мы атрымалі адпіску з Міністэрства культуры, у якой гаворыцца аб магчымасці адкрыцця экспазіцыі па гэтай тэме ў дзейных музеях краіны. Чыноўнікі, мабыць, забылі, што ў Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны загінулі 800 тысяч з 6 мільёнаў ахвяр Халакоста — больш, чым у любой іншай краіне СНД. Музеі ж, прысвечаныя гэтай тэме, адкрыты нават у тых краінах, якія не перажылі трагедыю еўрапейскага яўрэйства",* — сказала І.Герасімава. Яна лічыць, што ў сталіцы ёсць будынкі, якія пры адпаведнай рэканструкцыі маглі б стаць базай для размяшчэння такой установы. *"У музеі гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі сабрана такая колькасць матэрыялаў па тэме трагедыі беларускага яўрэйства ў гады Другой сусветнай вайны, што мы гатовы ў любы момант пачаць падрыхтоўку экспазіцыі музея Халакоста",* — зазначыла І.Герасімава.

**Марат ГАРАВЫ.**

## У вёсцы Дастоева ўспомняць Фёдара Дастаеўскага

**У Іванаўскім раёне пачаліся падрыхтоўчыя работы па стварэнні эколага-мемарыяльнай зоны на месцы сядзібы роду Дастаеўскіх.**

Згодна з планам, будзе расчышчана тэрыторыя, дзе ў XVI—XVIII стагоддзях размяшчалася сядзіба Рцішчавых-Дастаеўскіх, агароджаны склеп, які захаваўся да нашых часоў, пашыраны вадаём, высаджаны ліпы, дубы і вербы, а потым усталяваны памятны знак. Усе гэтыя мерапрыемствы з'яўляюцца часткай праекта Іванаўскага райвыканкама па святкаванні 500-годдзя роду Дастаеўскіх, якое будзе адзначацца ў кастрычніку гэтага года.

Адзначым, што вялікі пісьменнік абавязаны сваім прозвішчам вёсцы Дастоева Іванаўскага раёна — гэтае пасяленне ўпершыню ўспамінаецца ў 1452 годзе.

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН захавальнік фондаў гісторыка-краязнаўчага музея ў Дастоеўскай сярэдняй школе Анатоль Бурак, план мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні ўрачыстасцяў быў зацверджаны ў мінулым годзе. *"5—6 кастрычніка на базе нашага музея пад патранатам Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.Пушкіна намечана правядзенне міжнароднай канферэнцыі, на якую ўжо накіраваны запрашэнні даследчыкам творчасці класіка рускай і сусветнай літаратуры з Расіі, Украіны, Германіі, Казахстана і Беларусі. Мы рады, што на зямлю сваіх продкаў згадзіўся прыехаць праўнук пісьменніка — Дзмітрый Дастаеўскі, які зараз жыве ў Санкт-Пецярбургу",* — зазначыў А.Бурак.

Да юбілею аргкамітэт таксама плануе выдаць буклеты, брашуры, паштовыя маркі "Дастоева і Дастаеўскі", арганізаваць конкурсы малюнкаў і сачыненняў, прысвечаных жыццю і творчасці класіка.

У пачатку лютага Дастоеўская сярэдняя школа чакае гасцей з Мінска. Студэнты-філолагі Беларускага дзяржаўнага універсітэта пад кіраўніцтвам дацэнта кафедры рускай літаратуры Дзмітрыя Башкірава прывязуць з сабой знойдзеныя імі ў архівах новыя дакументы, звязаныя з прадстаўнікамі роду Дастаеўскіх. Гэтыя матэрыялы папоўняць фонды музея, у якім за 24 гады яго працы сабрана шмат рарытэтаў, якія расказваюць пра жыццё і творчасць вялікага пісьменніка. Сярод іх — радаслоўнае дрэва роду Дастаеўскіх, творы Фёдара Міхайлавіча на французскай, польскай і нямецкай мовах.

У музеі пабывалі многія вядомыя даследчыкі творчасці пісьменніка з розных краін. Штогод тут прымаюць больш за тры тысячы турыстаў з розных краін. Музей у Дастоеве доўгія гады падтрымлівае цесныя сувязі з маскоўскім фондам Дастаеўскага, які ўзначальвае акадэмік Ігар Волгін, а таксама з музеямі Дастаеўскага ў Старой Русе і Санкт-Пецярбургу.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Горкае прызнанне пенсіянера

## Стан цяжкі і стабільны

Атрымаў пенсію, ужо падвышаную — 286 тысяч рублёў. Сума нібыта салідная. А прыкінуў...

За кватэру заплаціў 60 тысяч. 30 тысяч аддаў доўгу. За 15 тысяч купіў, прабачце, штонікі спартыўныя насіць дома. На лекі трэба прыкладна 20 тысяч. На розную драбязу (пральны парашок, мыла, лязы для галення, зубная паста і г.д.) спатрэбіцца тысяч 25. На алей, гарбату і яшчэ тое-сёе, што за яду не лічыцца, яшчэ прыкладна столькі. Усяго — 175 тысяч. Непасрэдна на ежу застаецца 110. Мізэр.

А мая ж пенсія не з нізкіх. Многія ж атрымліваюць 210—220. Значыць, трэба задаволіцца нейкімі... аж рука не падымаецца напісаць (220 адняць 160) — 60 тысячамі. Менавіта столькі засталося пасля разлікаў у маёй знаёмай Зіны. Столькі ж у Любы, Ніны, крыху больш у Міколы. Як ім жыць і мне выкруціцца, дажыць да чарговай пенсіі?!

Цяпер з двума-трыма тысячамі ў гастраноме амаль няма чаго рабіць. За іх можна купіць усяго толькі батон ды малако. То як пенсіянеры, у першую чаргу адзінокія, жывуць? Эканомяць! Эканомяць на ўсім — не купляюць патрэбныя лекі, голяцца праз два-тры дні, а то і радзей, на рынках выглядваюць якія-небудзь мясныя абрэзкі, чуў, што некаторыя нават купляюць сабачую ці каціную ежу, апранаюцца ў абноскі...

А што рабіць, калі цэны бязбожна растуць, калі да іх не падступіцца?! У параўнанні з 1990 годам цяпер на пенсію можна купіць прадуктаў у дватры разы меней. Адно параўнанне. Раней за 120 рублёў сярэдні пенсіянер купляў 60 кілаграмаў свініны, а цяпер за 200 тысяч — толькі 30.

Я ў магазінах бываю кожны дзень. Бачу, што цэны растуць пастаянна. Летась не ўгледзеў ні аднаго прадукта, які патаннеў: ні беларускага, ні заморскага.

У фарміраванні пакупніцкай здольнасці склалася ўстойлівая традыцыя. Праўда, негатыўная. Такая яна ажно пятнаццаць гадоў. Напрыклад, у мінулай пяцігодцы пенсіянеры маглі купіць за сярэднюю пенсію ў два разы прадуктаў менш, чым у 1990-м. Пачалася новая пяцігодка — і сёння за "сярэднюю" можна купіць зноў жа ў два-тры разы менш, чым у тым жа 1990-м. Як рос кошт каўбасных вырабаў, сыроў і г.д. прыкладна на тысячу рублёў за кілаграм у год, так і расце. Стабільнасць, а як жа!

У апошні час расійскія ўрачы гэтае слова часта ўжываюць для характарыстыкі стану людзей, якія лечацца ў бальніцах пасля аварый. "Стан, — кажуць, — цяжкі, але стабільны". Цалкам падыходзіць для характарыстыкі жыцця ў Беларусі: цяжкае, але стабільнае.

Пры такой беларускай "стабільнасці" не выпадае гаварыць пра далікатэсы, напрыклад, пра рыбу коштам 50 тысяч за кілаграм, пра ікру, вяндліну і нешта падобнае. Ды і пра садавіну, гародніну, пра цытрусавыя, пра шакалад... Ды што казаць пра нешта такое, калі кілаграм квашанай капусты ў магазіне каштуе ажно 2480 рублёў, а кошт свежых агуркоў перавышае 9000.

Вышэй гаварылася аб праблеме "напіхаць страўнік", каб неяк выжыць. Але ж дбаць пра такое могуць толькі істоты, даведзеныя да жывёльнага стану матэрыяльным становішчам. А чалавек, як казаў адзін пралетарый, гучыць горда! Яго не можа задаволіць "кармушка". У яго процьма іншых інтарэсаў, патрэб. Яму ж патрэбны відовішчы: тэатры, канцэрты, спартыўныя спаборніцтвы, падарожжы, экскурсіі... Я пра іх, як і амаль усе мае сябры ды знаёмыя, даўно забыў.

Між іншым, у чалавека хоць раз у год бывае дзень нараджэння, бываюць такія дні ў яго родных, сяброў. У "пенсійным бюджэце" выдаткі на іх не прадугледжаны. А каб адзначыць больш-менш па-чалавечы юбілей, пенсіі сярэдняй не хопіць. А калі і хопіць, то пасля ўрачыстасці на месяц кладзі зубы на паліцу. У мяне ж у першай палове лютага заўсёды тры такія дні: свой, унучкі і сябра. Пасля іх даводзіцца рабіцца даўжніком.

Шмат іншых абмежаванняў на самае неабходнае накладваць прыходзіцца. Нашу касцюмы, якія ў лепшыя часы даўно былі б на сметніку. Абутак — таксама. Летась заходзіў у кнігарню, калі праўнучку ў школу збіралі. Замест ранейшых дзесяці-дванаццаці газет і часопісаў па падпісцы атрымліваю адну. Кватэра даўно патрабуе хаця б касметычнага рамонту. Пра яго — не ўспамінай.

Такое мне і ў сне не снілася. Нават падумаць не мог, што такая "забяспечаная старасць" выпадзе мне, журналісту з больш як 50-гадовым стажам, які працаваў у асноўным адказным сакратаром і намеснікам рэдактара ў рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў, рэдактарам БелТА.

Так, як я, жыве большасць маіх калег. Так жыве большасць грамадзян Беларусі. Ці можна такое жыццё назваць жыццём? Відаць, толькі ў дзяржаўных СМІ можна. Яны з раніцы да вечара б'юць у святочныя барабаны, бессаромна крычаць, што беларускі народ ледзь не самы шчаслівы на планеце Зямля, што ён ужо адной нагой уступіў у рай. А мне здаецца, што ён уступіў у нешта другое.

Са свайго вопыту ведаю: каб хоць крыху па-людску жыць, пенсіянер павінен атрымліваць не 200, не 250 і не 300 тысяч. Для нармальнага жыцця трэба мець у месяц як мінімум у два разы болей. Гэта адпавядала б ранейшай пенсіі ў былым СССР памерам 130—200 рублёў. Тады можна было б нешта адкласці ў запас — на той жа рамонт кватэры, на новыя тэлевізар, халадзільнік, якія старэюць, на вопратку, абутак і г.д.

Можа, хто-небудзь скажа: "І не сорамна табе так гаварыць пра сваю беднасць?" Не, не сорамна. Па-першае, беднасць — не загана. Па-другое, няхай за яе будзе сорамна тым, хто давёў краіну да такога стану.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ,**
**пенсіянер, жыхар г.Мінска.**

СУД!

## На мяжы закона

**Былы афіцэр пагранічных войск Беларусі Гродзенскім міжгарнізонным ваенным судом прыгавораны да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Ён таксама пазбаўлены вайсковага звання "капітан".**

Паводле інфармацыі ўпраўлення ваеннай контрразведкі КДБ Беларусі, кантралёр аднаго з аддзяленняў пагранічнага кантролю спрабаваў падзарабіць на аказанні садзеяння ў перамяшчэнні аўтамабіляў з Літвы ў Беларусь. Падманным шляхам ён вымусіў свайго знаёмага, які займаўся ўвозам аўтамашын у краіну, да неаднаразовай дачы хабару супрацоўніку мытні. Пры гэтым афіцэр-памежнік пры перадачы грошай выступаў у ролі пасрэдніка і большую іх частку забіраў сабе. Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў контрразведчыкам удалося задакументаваць злачынную дзейнасць афіцэра. Крымінальную справу па выяўленых фактах махлярства і дачы хабару расследавала Беларуская ваенная пракуратура.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ОЛИМПИАДА-2006

# Программа XX зимних Олимпийских игр




*Турин (Италия), 10—26 февраля 2006 года*

## 10 февраля, пятница

| | |
|---|---|
| ОТКРЫТИЕ ОЛИМПИАДЫ | **21.00** |

## 11 февраля, суббота (4 финала)

| *Вид спорта* | *Дисциплина* | *Время* |
|---|---|---|
| Лыжное двоеборье | Индивидуальные соревнования, прыжки с трамплина | 13.00 |
| Хоккей с шайбой | Финляндия — Германия (женщины) | 14.00 |
| **Биатлон** | **Индивидуальная гонка 20 км (мужчины)** | **14.00** |
| **Лыжное двоеборье** | **Индивидуальные соревнования,** лыжная гонка 15 км | **15.00** |
| Фристайл | Могул, квалификация (женщины) | 16.00 |
| Хоккей с шайбой | Швеция — Россия (женщины) | 16.30 |
| **Конькобежный спорт** | **5000 м (мужчины)** | **16.30** |
| Санный спорт | Одиночные сани, 1-й заезд (мужчины) | 17.00 |
| Хоккей с шайбой | США — Швейцария (женщины) | 19.00 |
| Прыжки на лыжах с трамплина | Средний трамплин, квалификация | 19.00 |
| Санный спорт | Одиночные сани, 2-й заезд (мужчины) | 19.30 |
| Фигурное катание | Парное катание, короткая программа | 20.00 |
| **Фристайл** | **Могул, финал (женщины)** | **20.00** |
| Хоккей с шайбой | Канада — Италия (женщины) | 21.30 |

## 12 февраля, воскресенье (8 финалов)

| | | |
|---|---|---|
| **Лыжные гонки** | **Гонка 7,5+7,5 км (женщины)** | **11.00** |
| Сноубординг | Хафпайп, квалификация (мужчины) | 11.00 |
| **Горнолыжный спорт** | **Скоростной спуск (мужчины)** | **13.00** |
| **Лыжные гонки** | **Гонка 15+15 км (мужчины)** | **14.45** |
| **Сноубординг** | **Хафпайп, финал (мужчины)** | **15.35** |
| Санный спорт | Одиночные сани, 3-й заезд (мужчины) | 17.00 |
| Хоккей с шайбой | Россия — Канада (женщины) | 17.30 |
| **Конькобежный спорт** | **3000 м (женщины)** | **17.30** |
| **Прыжки на лыжах** с трамплина | **Средний трамплин, финал** | **19.00** |
| **Санный спорт** | **Одиночные сани, 4-й заезд (мужчины)** | **19.30** |
| Хоккей с шайбой | США — Германия (женщины) | 20.00 |
| **Шорт-трек** | **1500 м (мужчины)** | **20.30-23.00** |
| Шорт-трек | 500 м, забеги (женщины) | 21.15 |
| Шорт-трек | Эстафета 3000 м, полуфиналы (женщины) | 22.25 |

## 13 февраля, понедельник (4 финала)

| | | |
|---|---|---|
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 10.00 |
| Сноубординг | Хафпайп, квалификация (женщины) | 11.00 |
| **Биатлон** | **Индивидуальная гонка 15 км (женщины)** | **13.00** |
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 15.00 |
| **Сноубординг** | **Хафпайп, финал (женщины)** | **15.35** |
| Хоккей с шайбой | Швеция — Италия (женщины) | 16.00 |
| Конькобежный спорт | 500 м, 1-й забег (мужчины) | 16.30 |
| Санный спорт | Одиночные сани, 1-й заезд (женщины) | 17.00 |
| **Конькобежный спорт** | **500 м, 2-й забег (мужчины)** | **18.25** |
| Хоккей с шайбой | Финляндия — Швейцария (женщины) | 18.30 |
| Санный спорт | Одиночные сани, 2-й заезд (женщины) | 19.00 |
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 20.00 |
| **Фигурное катание** | **Парное катание, свободная программа** | **20.00** |

## 14 февраля, вторник (6 финалов)

| | | |
|---|---|---|
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 10.00 |
| Лыжные гонки | Командный спринт, полуфиналы (женщины) | 11.00; 11.20 |
| Лыжные гонки | Командный спринт, полуфиналы (мужчины) | 11.40; 12.00 |
| **Лыжные гонки** | **Командный спринт, финал (женщины)** | **12.20** |
| **Лыжные гонки** | **Командный спринт, финал (мужчины)** | **12.40** |
| Горнолыжный спорт | Скоростной спуск в зачет комбинации (мужчины) | 13.00 |
| Хоккей с шайбой | Италия — Россия (женщины) | 14.00 |
| **Биатлон** | **Спринт 10 км (мужчины)** | **14.30** |
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 15.00 |
| Хоккей с шайбой | Канада — Швеция (женщины) | 16.30 |
| Конькобежный спорт | 500 м, 1-й забег (женщины) | 17.00 |
| Санный спорт | Одиночные сани, 3-й заезд (женщины) | 17.00 |
| Горнолыжный спорт | Слалом в зачет комбинации, 1-я попытка (мужчины) | 18.00 |
| **Конькобежный спорт** | **500 м, 2-й забег (женщины)** | **18.40** |
| **Санный спорт** | **Одиночные сани, 4-й заезд (женщины)** | **19.00** |
| Хоккей с шайбой | Швейцария — Германия (женщины) | 19.00 |
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 20.00 |
| Фигурное катание | Мужчины, короткая программа | 20.00 |
| **Горнолыжный спорт** | **Слалом в зачет комбинации, 2-я попытка (мужчины)** | **20.30** |
| Хоккей с шайбой | Финляндия — США (женщины) | 21.30 |

## 15 февраля, среда (5 финалов)

| | | |
|---|---|---|
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 10.00 |
| Лыжное двоеборье | Командное первенство, прыжки с трамплина, 1-я попытка | 11.30 |
| Хоккей с шайбой | Казахстан — Швеция (мужчины) | 12.30 |
| Лыжное двоеборье | Командное первенство, прыжки с трамплина, 2-я попытка | 12.35 |
| **Горнолыжный спорт** | **Скоростной спуск (женщины)** | **13.00** |
| Хоккей с шайбой | Италия — Канада (мужчины) | 14.00 |
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 15.00 |
| Фристайл | Могул, квалификация (мужчины) | 15.00 |
| **Лыжное двоеборье** | **Командное первенство, эстафета 4х5 км** | **16.00** |
| Хоккей с шайбой | Швейцария — Финляндия (мужчины) | 16.30 |
| Санный спорт | Сани-двойки, 1-й заезд (мужчины) | 17.00 |
| Хоккей с шайбой | Германия — Чехия (мужчины) | 18.00 |
| Конькобежный спорт | Командная гонка преследования, забеги (женщины) | 18.00 |
| Конькобежный спорт | Командная гонка преследования, забеги (мужчины) | 18.25 |
| **Санный спорт** | **Сани-двойки, 2-й заезд (мужчины)** | **18.30** |
| **Фристайл** | **Могул, финал (мужчины)** | **18.30** |
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 20.00 |
| **Шорт-трек** | **500 м, финалы (женщины)** | **20.30—21.40** |
| Хоккей с шайбой | Россия — Словакия (мужчины) | 21.00 |
| Шорт-трек | 1000 м, забеги (мужчины) | 21.00 |
| Хоккей с шайбой | Латвия — США (мужчины) | 22.00 |
| Шорт-трек | Эстафета 5000 м, полуфиналы (мужчины) | 22.05 |

## 16 февраля, четверг (7 финалов)

| | | |
|---|---|---|
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 10.00 |
| **Лыжные гонки** | **Гонка 10 км классический стиль (женщины)** | **11.00** |
| Сноубординг | Кросс, квалификация (мужчины) | 11.00 |
| Хоккей с шайбой | Финляндия — Италия (мужчины) | 13.00 |
| **Биатлон** | **Спринт 7,5 км (женщины)** | **13.00** |
| Хоккей с шайбой | Чехия — Швейцария (мужчины) | 14.00 |
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 15.00 |
| **Сноубординг** | **Кросс, финал (мужчины)** | **15.35** |
| Хоккей с шайбой | Россия — Швеция (мужчины) | 17.00 |
| Хоккей с шайбой | Словакия — Латвия (мужчины) | 18.00 |
| **Конькобежный спорт** | **Командная гонка преследования,** финалы (женщины) | **18.00** |
| **Конькобежный спорт** | **Командная гонка преследования, финалы (мужчины)** | **18.10** |
| **Скелетон** | **Женщины** | **18.30; 19.30** |
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 20.00 |
| **Фигурное катание** | **Мужчины, произвольная программа** | **20.00** |
| Хоккей с шайбой | Канада — Германия (мужчины) | 21.00 |
| Хоккей с шайбой | Казахстан — США (мужчины) | 22.00 |

## 17 февраля, пятница (4 финала)

| | | |
|---|---|---|
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 10.00 |
| **Лыжные гонки** | **Гонка 15 км классический стиль (мужчины)** | **11.00** |
| Сноубординг | Кросс, квалификация (женщины) | 11.00 |
| Горнолыжный спорт | Скоростной спуск в зачет комбинации (женщины) | 13.00 |
| Хоккей с шайбой | Матч за 5—8-е места (женщины) | 14.00 |
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 15.00 |
| **Сноубординг** | **Кросс, финал (женщины)** | **15.15** |
| Хоккей с шайбой | Полуфинал (женщины) | 18.00 |
| Горнолыжный спорт | Слалом в зачет комбинации, 1-я попытка (женщины) | 18.00 |
| Скелетон | Мужчины, 1-й заезд | 18.30 |
| Прыжки на лыжах с трамплина | Большой трамплин, квалификация | 19.00 |
| Хоккей с шайбой | Матч за 5—8-е места (женщины) | 19.30 |
| **Скелетон** | **Мужчины, 2-й заезд** | **20.00** |
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 20.00 |
| Фигурное катание | Танцы на льду, обязательный танец | 20.00 |
| **Горнолыжный спорт** | **Слалом в зачет комбинации, 2-я попытка (женщины** | **20.30** |
| Хоккей с шайбой | Полуфинал (женщины) | 22.00 |

## 18 февраля, суббота (8 финалов)

| | | |
|---|---|---|
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 10.00 |
| **Лыжные гонки** | **Эстафета 4х5 км (женщины)** | **10.45** |
| **Горнолыжный спорт** | **Супергигант (мужчины)** | **12.00** |
| Хоккей с шайбой | Казахстан — Россия (мужчины) | 12.30 |
| **Биатлон** | **Гонка преследования 10 км (женщины)** | **13.30** |
| Хоккей с шайбой | Италия — Германия (мужчины) | 14.00 |
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 15.00 |
| **Биатлон** | **Гонка преследования 12,5 км (мужчины)** | **15.30** |
| Хоккей с шайбой | Канада — Швейцария (мужчины) | 16.30 |
| Бобслей | Двойки (мужчины), 1-й заезд | 18.30 |
| Хоккей с шайбой | Латвия — Швеция (мужчины) | 18.00 |
| **Конькобежный спорт** | **1000 м (мужчины)** | **18.00** |
| **Прыжки на лыжах** с трамплина | **Большой трамплин, финал** | **19.00** |
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 20.00 |
| Бобслей | Двойки (мужчины), 2-й заезд | 20.20 |
| **Шорт-трек** | **1500 м (женщины)** | **20.30—22.45** |
| Хоккей с шайбой | Словакия — США (мужчины) | 21.00 |
| **Шорт-трек** | **1000 м, финалы (мужчины)** | **21.15—23.00** |
| Хоккей с шайбой | Чехия — Финляндия (мужчины) | 22.00 |

## 19 февраля, воскресенье (4 финала)

| | | |
|---|---|---|
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 10.00 |
| **Лыжные гонки** | **Эстафета 4х10 км (мужчины)** | **11.00** |
| Хоккей с шайбой | Германия — Швейцария (мужчины) | 13.00 |
| **Горнолыжный спорт** | **Супергигант (женщины)** | **13.00** |
| Хоккей с шайбой | Россия — Латвия (мужчины) | 14.00 |
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 15.00 |
| Хоккей с шайбой | Казахстан — Словакия (мужчины) | 17.00 |
| **Конькобежный спорт** | **1000 м (женщины)** | **18.00** |
| Хоккей с шайбой | США — Швеция (мужчины) | 18.00 |
| Бобслей | Двойки (мужчины), 3-й заезд | 18.30 |
| Фристайл | Акробатика, квалификация (женщины) | 19.30 |
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 20.00 |
| Фигурное катание | Танцы на льду, оригинальный танец | 20.00 |
| **Бобслей** | **Двойки (мужчины), 4-й заезд** | **20.20** |
| Хоккей с шайбой | Чехия — Италия (мужчины) | 21.00 |
| Хоккей с шайбой | Финляндия — Канада (мужчины) | 22.00 |

## 20 февраля, понедельник (4 финала)

| | | |
|---|---|---|
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 10.00 |
| Горнолыжный спорт | Гигантский слалом, 1-я попытка (мужчины) | 10.30 |
| Хоккей с шайбой | Матч за 7-е место (женщины) | 14.00 |
| **Горнолыжный спорт** | **Гигантский слалом, 2-я попытка (мужчины)** | **14.00** |
| Керлинг | Групповой турнир (мужчины) | 15.00 |
| Хоккей с шайбой | Матч за 3-е место (женщины) | 17.30 |
| Хоккей с шайбой | Матч за 5-е место (женщины) | 18.00 |
| Бобслей | Двойки (женщины), 1-й заезд | 18.30 |
| **Прыжки на лыжах с трамплина** | **Командное первенство, большой трамплин** | **19.00** |
| Фристайл | Акробатика, квалификация (мужчины) | 19.30 |
| Бобслей | Двойки (женщины), 2-й заезд | 19.30 |
| Керлинг | Групповой турнир (женщины) | 20.00 |
| **Фигурное катание** | **Танцы на льду, произвольный танец** | **20.00** |
| **Хоккей с шайбой** | **Финал (женщины)** | **21.30** |

## 21 февраля, вторник (4 финала)

| | | |
|---|---|---|
| Керлинг | Тай-брэйк (мужчины, женщины) | 10.00 |
| Лыжное двоеборье | Спринт, прыжки с трамплина | 11.00; 12.00 |
| Хоккей с шайбой | Казахстан — Латвия (мужчины) | 12.30 |
| **Биатлон** | **Эстафета 4х7,5 км (мужчины)** | **13.00** |
| Хоккей с шайбой | Швейцария — Италия (мужчины) | 13.30 |
| Керлинг | Тай-брэйк (мужчины, женщины) | 15.00 |
| **Лыжное двоеборье** | **Спринт, лыжная гонка 7,5 км** | **15.00** |
| Хоккей с шайбой | Финляндия — Германия (мужчины) | 16.30 |
| **Конькобежный спорт** | **1500 м (мужчины)** | **17.00** |
| Хоккей с шайбой | Канада — Чехия (мужчины) | 17.30 |
| Бобслей | Двойки (женщины), 3-й заезд | 18.30 |
| Фигурное катание | Женщины, короткая программа | 20.00 |
| **Бобслей** | **Двойки (женщины), 4-й заезд** | **20.00** |
| Керлинг | Тай-брэйк (мужчины, женщины) | 20.00 |
| Хоккей с шайбой | Словакия — Швеция (мужчины) | 21.00 |
| Хоккей с шайбой | США — Россия (мужчины) | 21.30 |

## 22 февраля, среда (7 финалов)

| | | |
|---|---|---|
| Горнолыжный спорт | Слалом, 1-я попытка (женщины) | 10.30 |
| Лыжные гонки | Спринт, квалификация (женщины) | 11.00 |
| Сноубординг | Параллельный гигантский слалом, квалификация (мужчины) | 11.00 |
| Лыжные гонки | Спринт, квалификация (мужчины) | 11.30 |
| **Горнолыжный спорт** | **Слалом, 2-я попытка (женщины)** | **14.00** |
| **Лыжные гонки** | **Спринт, финалы (женщины)** | **15.00** |
| Керлинг | Полуфиналы (женщины) | 15.00 |
| **Лыжные гонки** | **Спринт, финалы (мужчины)** | **15.15** |
| **Сноубординг** | **Параллельный гигантский слалом,** финалы (мужчины) | **15.15** |
| Хоккей с шайбой | Четвертьфинал (мужчины) | 17.30 |
| **Конькобежный спорт** | **1500 м (женщины)** | **18.00** |
| Хоккей с шайбой | Четвертьфинал (мужчины) | 18.30 |
| **Фристайл** | **Акробатика, финал (женщины)** | **19.45** |
| Керлинг | Полуфиналы (мужчины) | 20.00 |
| Шорт-трек | 1000 м, забеги (женщины) | 20.30 |
| Шорт-трек | 500 м, забеги (мужчины) | 21.15 |
| Хоккей с шайбой | Четвертьфинал (мужчины) | 21.30 |
| **Шорт-трек** | **Эстафета 3000 м, финалы (женщины)** | **22.00** |
| Хоккей с шайбой | Четвертьфинал (мужчины) | 22.30 |

## 23 февраля, среда (5 финалов)

| | | |
|---|---|---|
| Сноубординг | Параллельный гигантский слалом, квалификация (женщины) | 12.00 |
| **Биатлон** | **Эстафета 4х6 км (женщины)** | **13.00** |
| Керлинг | Матч за 3-е место (женщины) | 14.00 |
| **Сноубординг** | **Параллельный гигантский слалом, финалы (женщины)** | **16.15** |
| **Керлинг** | **Финал (женщины)** | **18.30** |
| **Фристайл** | **Акробатика, финал (мужчины)** | **19.30** |
| **Фигурное катание** | **Женщины, произвольная программа** | **20.00** |

## 24 февраля, четверг (4 финала)

| | | |
|---|---|---|
| **Лыжные гонки** | **Гонка 30 км свободный стиль, массовый старт (женщины)** | **12.30** |
| Керлинг | Матч за 3-е место (мужчины) | 14.00 |
| Горнолыжный спорт | Гигантский слалом, 1-я попытка (женщины) | 15.45 |
| **Конькобежный спорт** | **10.000 м (мужчины)** | **16.00** |
| Хоккей с шайбой | Полуфинал (мужчины) | 17.30 |
| **Керлинг** | **Финал (мужчины)** | **18.30** |
| Бобслей | Четверки (мужчины), 1-й заезд | 18.30 |
| **Горнолыжный спорт** | **Гигантский слалом, 2-я попытка (женщины)** | **18.45** |
| Фигурное катание | Гала-представление | 20.00 |
| Бобслей | Четверки (мужчины), 2-й заезд | 20.20 |
| Хоккей с шайбой | Полуфинал (мужчины) | 22.00 |

## 25 февраля, пятница (8 финалов)

| | | |
|---|---|---|
| **Биатлон** | **Гонка с массовым стартом 15 км (мужчины)** | **11.00** |
| **Биатлон** | **Гонка с массовым стартом 12,5 км (женщины)** | **13.00** |
| Горнолыжный спорт | Слалом, 1-я попытка (мужчины) | 16.00 |
| **Конькобежный спорт** | **5000 м (женщины)17.30** | |
| Бобслей | Четверки (мужчины), 3-й заезд | 18.30 |
| **Горнолыжный спорт** | **Слалом, 2-я попытка (мужчины)** | **19.30** |
| **Бобслей** | **Четверки (мужчины), 4-й заезд** | **20.20** |
| **Шорт-трек** | **500 м, финалы (мужчины)** | **20.30-21.50** |
| **Шорт-трек** | **1000 м, финалы (женщины)** | **20.45-22.00** |
| Хоккей с шайбой | Матч за 3-е место (мужчины) | 21.30 |
| **Шорт-трек** | **Эстафета 5000 м, финалы (мужчины)** | **22.15** |

## 26 февраля, суббота (2 финала)

| | | |
|---|---|---|
| **Лыжные гонки** | **Гонка 50 км свободный стиль, массовый старт (мужчины)** | **11.00** |
| **Хоккей с шайбой** | **Финал (мужчины)** | **15.00** |
| ЗАКРЫТИЕ ОЛИМПИАДЫ | | 21.00 |

** (время белорусское; жирным шрифтом выделены соревнования, в которых разыгрываются медали)*

БЫВАЕ...

## *Воўк на падвор'і*

**Дзесяць гадоў таму ляснік з вёскі Сорагі Слуцкага раёна Анатоль Сцяпанавіч Шушкевіч набыў у Петрыкаўскім раёне ў знаёмага егера ваўчаня памерам з дарослага ката і прывёз дамоў, узяў пад апеку. Маці, з якой Анатоль жыве разам, намер яго не ўхваліла, але і не ўмешвалася ў яго адносіны з падсяленцам на падворку.**

Паколькі воўк без мяса жыць не можа, то Анатоль Сцяпанавіч стаў наведвацца на матацыкле ў недалёкі пасёлак Кучына, дзе знаходзілася кааператыўная, а пазней прыватная звераферма па вырошчванні пясцоў і чарнабурых лісіц — для адпраўлення іх скур на экспарт у Расію. Косці і мяса забітых звяркоў забіраў Анатоль Сцяпанавіч, вядома, не задарма. І карміў ваўчаня, якому даў мянушку Вова.

Праз два гады з яго вырас паўнавартасны звер, стаў лашчыцца да свайго гаспадара, а калі той на матацыкле адпраўляўся ў лес, то бег услед не адстаючы.

Здаралася, што Вова адлучаўся за два кіламетры ад вёскі, але потым знаходзіў след і прыбягаў дадому.

Пасля двух гадоў жыцця на падворку выпускаць звера на волю, на свой пракорм, не было разліку — ён не змог бы падладзіцца пад паводзіны сваіх вольных суродзічаў і стаў бы хутка ахвярай паляўнічых. Затое вартаўнік падворку ён быў надзейны, вулічныя бадзячыя сабакі абыходзілі сядзібу лесніка бокам. Анатоль Сцяпанавіч пераканаўся, што ў двары жыць побач сабака з воўкам не могуць — канфлікт паміж імі прадвызначаны самой прыродай.

Днямі я пазваніў яму і пацікавіўся, як пажывае дваровы сябра Вова. Адказ быў кароткім: "Я, на жаль, застрэліў яго. Што прымусіла? Бяскорміца. Воўк раслінную ежы не прымае — толькі мяса, а яго патрэбна не меней двух-трох кілаграмаў у дзень. Пасля таго як звераферма ў пасёлку Кучына закрылася з-за нерэнтабельнасці, даставаць пракорм не было дзе. Званіў у мінскі звярынец, прапаноўваў здаць ваўка задарма, але яму адказалі, што сучку прынялі б, а кабель ім не патрэбен, іх у звярынцы хапае". І ён узяў у рукі стрэльбу.

— Нялёгка было націскаць на курок, бо я прывык да Вовы, за гады знаходжання яго на падворку канчаткова пераканаўся, што воўк у няволі лепшы сябар для чалавека, чым сабака, болей прывязаны, з адмысловай хітрынкай у паводзінах.

Напэўна, Анатоль Сцяпанавіч цяпер зразумеў, што не варта такога звера як воўк, які любіць свабоду, браць на дваровае выхаванне. У няволі ў рэшце рэшт ён не жылец.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

*г. Слуцк.*

СОВЕТЫ

Хотите избавиться от осадка в душе? Не кипятитесь!

***

Не давай в долг, ибо должников берегут, а кредиторов убивают.

***

Когда невозможно уже работать напряженнее, начни работать умнее.

***

Экономьте время — влюбляйтесь с первого взгляда!

НАКАНУНЕ

# Большой шмон

*Как сообщают информагентства, германское ведомство по защите Конституции, выполняющее функции контрразведки, проверит около 250 тысяч человек, которые будут задействованы на чемпионате мира по футболу 2006 года. Беспрецедентную акцию будут осуществлять как центральный аппарат этой организации в Кельне, так и земельные ведомства на местах.*

Согласно информации МВД ФРГ, в 12 городах Германии, где состоятся 64 матча ЧМ-2006, спецпроверку пройдет весь персонал стадионов: от продавцов сосисок и уборщиков трибун до тренеров и билетеров. Контрразведка "заглянет" и в "грязное белье" сотрудников служб безопасности стадионов и футбольных клубов, полицейских, которые будут обеспечивать общественный порядок в ходе чемпионата, а также журналистов, аккредитованных для освещения матчей.

Проверка лиц, допущенных к обслуживанию чемпионата, призвана выяснить, имелись ли у них в прошлом контакты с террористическими или экстремистскими структурами. При этом критерии лояльности не разглашаются. В случае выявления подозрительных связей человек без объяснения причин будет лишен допуска на стадионы и мероприятия без права обжаловать это решение в вышестоящей инстанции.

По словам представителя МВД, предстоящий чемпионат мира по футболу — "событие беспрецедентного масштаба", которое требует адекватного уровня безопасности. Нет у МВД сомнений и в законности акции. Каждый кандидат на работу на ЧМ-2006 при подаче заявления заполняет формуляр, в котором содержится пункт о согласии на проверку со стороны полиции и контрразведки.

## Партрэтная галерэя

*Сядзяць надзьмута-важныя —*
*Ліслівыя, прадажныя*
*Эквілібрысты слоўныя,*
*Брыдотнікі саноўныя.*
*Без гонару, без годнасці,*
*Яны любыя подласці*
*Ўладкуюць у закон,*
*Калі іх аўтар Ён...*

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ,**
**удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, жыхар Слаўгарада.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).
ФДУП "Смоленский полиграфический Комбинат", 214020, г.Смаленск, вул. Смальянінава, д.1.
Падпісаны ў друк 2.02.2006 у 12.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж: 27 000 экз. Заказ № 13562.